**№33 (1846)**

Аўторак, 24 лютага 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.


*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

# Народная Воля


E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -2...0, снег, уначы — -6...-4, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — -1...+1, уначы — -4...-2, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — -2...0, снег, уначы — -5...-3, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — -1...+1, уначы — -5...-3, на працягу сутак — снег; у Гомелі ўдзень — -1...+1, уначы — -1...+1, на працягу сутак — снег; у Магілёве ўдзень — -1...+1, уначы — -4...-2, на працягу сутак — снег.

*www.meteo.by*





**ПУЛЬС**

## Якое малако п'ем?

У малацэ, якое вырабляецца ў прыватным сектары Брэсцкай вобласці і застаецца адным з асноўных прадуктаў харчавання, на жаль, утрымліваюцца радыенукліды. Праўда, колькасць населеных пунктаў, дзе фіксуецца павышаны ўзровень забруджвання малака, скарачаецца.

Пра гэта БелаПАН паведамілі ў абласным цэнтры гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя.

На думку спецыялістаў, асноўнай прычынай атрымання ў асобных вёсках няякаснага малака з'яўляецца недастатковая работа па стварэнні культурных пашаў для жывёлы і нарыхтоўка кармоў на забруджаных сельгастэрыторыях.

З гэтай прычыны ў 2004 годзе па рашэнні абласных улад з выдзеленай Брэстчыне сумы на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай катастрофы значныя сродкі будуць накіраваныя на стварэнне культурных пашаў і сенажацяў для жывёлы.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Віза ў Польшчу за 5 еўра?

Спецыяльная беларуска-польская рабочая група будзе створана для разгляду пытання аб зніжэнні кошту віз. Пра гэта было аб'яўлена на прэс-канферэнцыі з удзелам міністраў замежных спраў Беларусі і Польшчы Сяргея Мартынава і Уладзімежа Чымашэвіча, што прайшла ў Беластоку (Польшча).

У.Чымашэвіч і С.Мартынаў абмеркавалі пытанні спрашчэння візавага рэжыму і зніжэння ў два разы аплат польскіх віз для беларусаў і беларускіх — для палякаў. На прэс-канферэнцыі двух міністраў у Беластоку кіраўнік беларускай дыпламатыі зазначыў, што аднаразовая польская віза для беларусаў магла б каштаваць 5 еўра (цяпер яе кошт складае 10 еўра. — **БелаПАН**).

**Андрэй СЕРАДА.**

## Хочаш кватэру — будуй сам

Паводле звестак абласнога ўпраўлення статыстыкі, 70,6 працэнта жылля на Віцебшчыне летась пабудавана за кошт сродкаў насельніцтва, уключаючы крэдыты. Разам з тым за кошт сродкаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў узведзена толькі 14,4 працэнта ўсёй жылплошчы (46,9 тысячы кв. м), а за кошт сродкаў прадпрыемстваў — 14,9 працэнта (48,7 тысячы кв. м). Усяго летась у вобласці на жыллёвае будаўніцтва было асвоена 119 мільярдаў рублёў інвестыцый, што складае 16,5 працэнта ад агульнага гадавога аб'ёму інвестыцый па Віцебшчыне.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Будзе ліцэй ў Мазыры

Конкурс на паступленне ў Гомельскі абласны ліцэй па асобных спецыяльнасцях дасягае 10 чалавек на месца. У сувязі з тым, што навучальная ўстанова перагружаная, вырашана адкрыць яшчэ адзін аналагічны ліцэй у Мазыры для забеспячэння больш якаснай падрыхтоўкі да паступлення ў ВНУ дзяцей з аддаленых сельскіх раёнаў Гомельскай вобласці. Ужо вызначана колькасць месцаў для кожнага з раёнаў, найбольшая — 22 — адведзена для вучняў Мазыра, а ўсяго, як плануецца, адукацыю па пяці спецыяльнасцях у другім абласным ліцэі штогод будуць атрымліваць амаль 300 дзяцей.

**Лідзія РУДКОЎСКАЯ.**

## На будаўніцтве Калінінградскай ЦЭЦ-2

Адкрытае акцыянернае таварыства "Белэнергабуд" у 2003 годзе выканала будаўніча-мантажныя работы на Калінінградскай ЦЭЦ-2 на суму 1 млрд. 49 млн. расійскіх рублёў. Яго спецыялістамі змантціраваны канструкцыі галоўнага корпуса будучай электрастанцыі, выкананы нулявыя цыклы па ўсіх будынках і збудаваннях ЦЭЦ. У 2004 годзе ААТ "Белэнергабуд" плануе выканаць на станцыі будаўніча-мантажныя работы на 2 млрд. 100 млн. расійскіх рублёў. У другім паўгоддзі тут пачнецца мантаж асноўнага тэхналагічнага абсталявання.

ААТ "Белэнергабуд" з'яўляецца адным з вядучых прадпрыемстваў будаўніча-мантажнага комплексу канцэрна "Белэнерга". Яно стала пераможцам абвешчанага РАТ "ЕЭС Расіі" тэндэра і выступіла генеральным падрадчыкам будаўніцтва Калінінградскай ЦЭЦ-2. Будаўнічыя работы пачаліся ў кастрычніку 2002 года. Увесці ў эксплуатацыю першую чаргу станцыі (блок магутнасцю 450 МВт) плануецца ў кастрычніку 2005 года.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**ХТО ЁСЦЬ ХТО**

# Юрый Леднік — хлус!



Што праўда, то праўда: Беларускае тэлебачанне кожны дзень глядзець немагчыма. З-за хлусні такіх, як Юрый Леднік (на фота). Пазаўчора ў сюжэце, які дэманстраваўся ў праграме "В центре внимания", ён, як аўтар, здавалася, са скуры вылузваўся, абліваючы памыямі незалежныя газеты і ўзносячы да нябёс дзяржаўныя. Глядзіце, маўляў, які вялікі тыраж у газеты "Беларусь сегодня" і які мізэрны ў "Народнай волі". Новаспечанай тэлезорцы быццам не вядома, што *"общереспубликанской газеты "Беларусь сегодня"* ў нашай краіне няма, і гэта вам могуць пацвердзіць у Міністэрстве інфармацыі. Ёсць газета "Советская Белоруссия", а слоган *"Беларусь сегодня"* — гэта як бы яе тэматычны дэвіз.

Па-другое: каб лішні раз укусіць "Народную волю", аўтар заангажаванага сюжэту памяншае яе тыраж амаль у два разы, абвяшчаючы, што ён нібыта *"едва дотягивает до 15 тысяч"*. Гэта ж трэба быць такім бессаромным чалавекам, каб на ўвесь свет нахабна хлусіць! Кожны дзень тыраж "Народнай волі" паведамляецца на апошняй старонцы, карэктывы ўносяцца нават тады, калі ён змяншаецца на некалькі экземпляраў. Не верыш — патэлефануй у друкарню "Чырвоная зорка", там скажуць, што "Народная воля" не махлюе з тыражамі. Чаго, бадай, не скажаш пра некаторыя дзяржаўныя газеты.

Ды і наогул, калі *товарища* Ледніка так хвалююць невялікія тыражы незалежных газет, то чаму б яму адкрыта не сказаць пра тое, што менавіта перашкаджае іх росту, — пра ўціск з боку ўлад, пра дыскрымінацыйныя тарыфы на распаўсюджванне, пра забарону на друкарні... "Народная воля" паспрабавала падчас падпіснай кампаніі размясціць улётку у вагонах метро — тут як тут паступіла каманда "Зняць!". У рэдакцыю прыходзяць лісты з рэгіёнаў, дзе "вертыкальшчыкі" ладзяць сапраўднае паляванне за тымі, хто падпісваецца на "Народную волю".

А ўдушэнне праз суды?! Са старонак дзяржаўных газет бруд можа ліцца патокам — ніякай адказнасці. "Народная воля" ўзяла пад абарону такога паважанага чалавека, як лаўрэат Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій, адзін са стваральнікаў сусветнавядомага Хатынскага мемарыялу Леанід Левін, — плаці кампенсацыі... А калі сказалі праўду пра ўсім вядомага Ягора Рыбакова — у яго абарону і раённы, і гарадскі суды. Што цяпер яны скажуць, калі Рыбакову інкрымінуюцца такія злачынствы, якія, хутчэй за ўсё, пацягнуць на многія гады пазбаўлення волі?

Але вернемся да пазаўчарашняга тэлесюжэта Юрыя Ледніка. Той, хто яго глядзеў, заўважыў такую навязлівую паралель: *"тираж общереспубликанской газеты "Беларусь сегодня"... постоянно растет"*, а *"тираж политизированной "Народной воли"... катастрофически сокращается"*. Далёка не так як у першым выпадку, так і ў другім. Я, *товарищ* Леднік, працаваў некалі першым намеснікам галоўнага рэдактара газеты "Советская Белоруссия" і яе штодзённы тыраж тады быў больш як 500 тысяч экземпляраў. Што да *"катастрафічнага скарачэння"* тыражу "Народнай волі", то не хвалюйцеся — газета не загіне. Адна справа, калі на пачатку выдання "Народная воля" друкавалася адзін раз на тыдзень, потым — два разы, затым — тры, і вось у апошнія гады яна выходзіць пяць разоў на тыдзень. Трэба мець на ўвазе і тое, што з-за дыскрымінацыйных тарыфаў на распаўсюджванне падпісны кошт на "Народную волю" ў параўнанні з дзяржаўнымі газетамі значна вышэйшы — у асобныя перыяды ён адрозніваўся ў два разы. Пры жабрацтве вялікай колькасці насельніцтва гэта мае пэўнае значэнне.

І яшчэ. Пацікаўцеся, *товарищ* Леднік, колькі падпісчыкаў у дзяржаўных выданняў, якія атрымоўваюць газеты бясплатна. Дакладней, за іх выкладваюць грошы ўладныя і вытворчыя структуры, самі рэдакцыі, бізнес-магнаты, якія хочуць выглядаць Савамі Марозавымі, і іншыя. У "Народнай волі" павялічваць тыраж такім чынам няма магчымасці.

Хлусіў Юрый Леднік і тады, калі сцвярджаў, што працэнт вяртання дзяржаўных газет ад распаўсюджвальнікаў роўны нулю. Калі б так, то не накіроўвала б намеснік міністра інфармацыі (цяпер ужо першы намеснік) Лілія Ананіч ліст дырэктарам прадпрыемстваў "Саюздрук", у якім *"Министерство информации просит обеспечить передачу нереализованных тиражей государственных периодических изданий (перечень прилагается) социально-культурным учреждениям (объектам здравоохранения, библиотекам, школам, детским домам, Домам престарелых и ветеранов)"*. Вось так дасягаецца той "нуль", пра які пазаўчора вёў размову Юрый Леднік. Але ён пра гэта — ні гу-гу! Як і пра тое, што ў звычайныя дні толькі ў кіёскі Мінска накіроўваецца 5600 экземпляраў "Народнай волі". У той час як "Народнай газеты" — 580, "Звязды" — 660, "Рэспублікі" — 1500, "Советской Белоруссии" — 4000 экземпляраў. Пагаварыце з кіяскёрамі: якія газеты і якімі тыражамі разыходзяцца? І ўсё стане зразумелым.

Але што да гэтага *товарищу* Леднику. Прамаўчаў тэлерэпарцёр і аб выніках сацыялагічных даследаванняў, якія сведчаць, што кожны экземпляр "Народнай волі" трымае ў руках як мінімум восем чалавек. Што і казаць, гэта лепшая адзнака працы журналісцкага калектыва.

Думаю, разумных людзей на мякіне не правядзеш. Яны ведаюць сапраўдную сітуацыю са сродкамі масавай інфармацыі ў Беларусі. І хлусня Юрыя Ледніка патрэбна, мабыць, толькі яму самому. Ды яшчэ тым, хто яе заказвае.

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**галоўны рэдактар газеты "Народная воля".**

**ВЕРСИИ**

# Кто станет новым президентским «завхозом»?

*В ближайшее время должно состояться назначение нового управляющего делами президента.*

Как стало известно "Народной воле", на данную должность рассматривается несколько кандидатур. Среди них называли одного известного бизнесмена, приближенного к властным кругам. И даже председателя Брестского облисполкома Василия Долголева. По нашей информации, бизнесмен от настойчивых предложений поспешил дипломатично отказаться. А Долголев после традиционного отчета "губернаторов" у Лукашенко отправился поднимать вверенную ему область...

В кулуарах Администрации президента говорят, что Александр Григорьевич уже определился со своим будущим "завхозом". И вроде бы им станет его земляк, нынешний заместитель главы Администрации президента **Николай Иванченко.** По информации из неофициальных источников, через пару дней состоится "посвящение" Иванченко в высшие должностные лица.

К сведению: Иванченко пришел в Администрацию президента с должности руководителя государственного концерна "Белресурсы". Заместителем главы Администрации работает с июля 2002 года.

Напомним, что первым управляющим делами президента Беларуси был **Иван Титенков.** Его назначили на эту должность в июле 1994 года. Широкую известность получили созданные при участии или покровительстве возглавляемого Титенковым управления делами предприятие "Торгэкспо", фонд Махмуда Эсамбаева, торговый дом "Белая Русь", фирма "Конто-групп", деятельность которых строилась на основе крупных таможенных льгот либо обхода действующего белорусского законодательства. По инициативе Титенкова на баланс управления делами президента были переданы многие объекты недвижимости, заповедники, концерн народных промыслов...

После Титенкова управлением делами президента с 17 декабря 1999 года руководил **Владимир Гончаренко**. В этой должности он пробыл недолго: 22 февраля 2001 года он был назначен министром связи. Как "завхоз" ничем особенным себя не проявил: с его стороны не было замечено ни решительных действий, ни нового наступления на чужую собственность.

**Галина Журавкова**, сменившая Гончаренко, так активно взялась за работу, что в прессе писали: мол, по сравнению с ней Иван Иванович может отдыхать... Как уже сообщала "Народная воля", сейчас Галина Анисимовна обвиняется в хищениях путем злоупотребления служебными полномочиями, совершенными организованной группой в особо крупном размере... Попавшись на взятке в размере около двухсот тысяч долларов, теперь мадам Журавкова вместе с супругом и сыном коротает время в СИЗО КГБ...

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

## Курсы замежных валют на 24 лютага

*Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў на 24 лютага наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

1 долар ЗША — 2151 рубель
1 еўра — 2699,61
1 расійскі рубель — 75,49
1 аўстралійскі долар — 1664,55
1 балгарскі леў — 1383,99
1 дацкая крона — 362,32
1 СДР — 3215,49
1 ісландская крона — 31,18
10 японскіх іен — 198,64
1 казахскі тэнге — 15,45
1 канадскі долар — 1602,77
1 кувейцкі дынар — 7298,95
1 кыргызскі сом — 50,26
1 латвійскі лат — 4040,20
1 літоўскі літ — 781,81
1 малдаўскі лей — 170,38
1 нарвежская крона — 307,36
1 польскі злоты — 551,61
1 сінгапурскі долар — 1270,68
10.000 турэцкіх лір — 16,17
1 украінская грыўна — 403,11
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3997,31
1 чэшская крона — 82,88
1 шведская крона — 293,50
1 швейцарскі франк — 1710,60
1 эстонская крона — 172,59

**БелаПАН.**

# Заинтересует ли Европу «белорусский миллион»?

**Александр ЗАЙЦЕВ**

Европейская коалиция "Свободная Беларусь" начала кампанию по сбору подписей за интеграцию Беларуси в Евросоюз. По словам председателя Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада) Николая Статкевича, кампания рассчитана на год. За это время планируется собрать миллион подписей граждан Беларуси.

Начнется кампания с распространения листовок, которые будут направлены на привлечение активистов к подписному процессу. Затем подписные листы начнут печататься в газетах. Подписи также будут собираться во время массовых акций и обхода квартир горожан. Кроме непосредственно сбора подписей, активисты кампании намерены вести и пропагандистскую работу — всячески продвигать в массы евроидеи.

Один из инициаторов акции, международный координатор гражданской инициативы "Хартия'97" **Андрей Санников** подчеркнул, что с данными подписями коалиция обратится к Европарламенту, Еврокомиссии и другим международным структурам, для того чтобы желание белорусского народа интегрироваться в общеевропейскую семью было услышано. *"Мы считаем, что проблемы, которые сейчас встают перед белорусским народом, поможет решить только европейский путь"*, — заявил он.

Как считают инициаторы акции, собрать миллион подписей вполне реально. А этого будет более чем достаточно, чтобы инициировать референдум по вопросу интеграции Беларуси в Евросоюз. Согласно Конституции, "республиканские референдумы назначаются Президентом Республики Беларусь по собственной инициативе, а также по предложению Палаты представителей и Совета Республики, (...) либо по предложению не менее 450 тысяч граждан, обладающих избирательным правом".

Однако, как сообщил *"Белорусским новостям"* Андрей Санников, *"вопрос о вынесении нашей инициативы на референдум пока остается открытым, и его решение будет зависеть от реакции властей"*. Организаторы кампании уверены, что руководству страны придется считаться с мнением людей, которые поставят свои подписи.

Как сообщил Андрей Санников, эта кампания планировалась фактически с момента образования коалиции "Свободная Беларусь", и следует считать случайностью, что объявление о ее начале совпало с обострением отношений Беларуси и России на фоне газовых проблем. *"Мы ставили цель запустить кампанию до 1 мая, когда произойдет расширение Евросоюза,* — сказал Андрей Санников. — *А газовый конфликт лишь подтвердил правильность и своевременность наших намерений"*.

Осенью прошлого года Независимый институт социально-экономических и политических исследований проводил национальный опрос общественного мнения, во время которого исследовалось отношение граждан к некоторым важным аспектам внешней политики Беларуси. В частности, тогда у респондентов спрашивали, какой интеграционный вектор они считают для нашей страны более предпочтительным — объединение с Россией либо вхождение в Евросоюз. Восточный вектор тогда выбрало 37,9 процента отвечавших, западный — 23,4 процента. Сразу за оба пути развития страны высказалось 23,2 процента, а против обоих — 6,5.

*Комментируя итоги того опроса,* эксперты говорили о достаточно сильных европейских настроениях в белорусском обществе, но обращали внимание на недостаточную информированность граждан нашей страны о процессах в Европе, что, в частности, и не позволило более чем 23 процентам сделать определенный выбор.

Возможно, что последний виток газового противостояния несколько подкорректирует эту статистику в пользу европейского вектора. *"Мы уже больше года наблюдаем, что интерес белорусов к Европе растет, и надеемся, что он только усилится, когда в Евросоюз вступят наши соседи — Польша и страны Балтии,* — говорит Андрей Санников. — *Их пример должен подогреть у граждан нашей страны желание не остаться в стороне от общеевропейских процессов. Тем более что последние события лишний раз подтвердили — отношения Минска и Москвы ничего хорошего белорусскому народу так и не принесли"*.

Кстати, согласно данным того же опроса НИСЭПИ, 54,1 процента белорусов считают, что после вступления в ЕС наши соседи станут жить лучше, и только 5,6 процента предположили, что ситуация там ухудшится.

Эксперт Международного института политических исследований **Андрей Федоров** не исключает, что в свете газового конфликта количество оптимистически настроенных к интеграции Беларуси в Европу граждан возрастет. Во многом, по мнению эксперта, это будет зависеть от информационной политики руководства страны. *"Чтобы у населения усилились симпатии к Европе, властям даже не надо занимать проевропейскую позицию, достаточно с такой же интенсивностью, как сейчас, подогревать у масс антироссийские настроения,* — считает Андрей Федоров. — *В этом случае какая-то часть сомневающихся может перейти из лагеря сторонников интеграции с Россией в европейский лагерь"*.

Но будет ли достаточно лишь одного желания наших граждан, чтобы Беларусь стала членом общей европейской семьи? Как считает Андрей Федоров, маловероятно, что Евросоюз с достаточной серьезностью отреагирует на белорусскую инициативу. *"Евросоюз в принципе не исключает возможность вхождения Беларуси в свои ряды, равно как не исключает и вхождение в ЕС и России, хотя это более чем маловероятно, так как принесет Европе лишь одни проблемы,* — сказал Андрей Федоров в интервью *"Белорусским новостям". — Так что подобные разговоры можно вести лишь с прицелом на отдаленную перспективу, когда в Беларуси, возможно, произойдут существенные перемены во внутренней политике"*.

*("Белорусские новости".)*

**ОНИ — О НАС**

# «Лукашенко либо придется уйти в отставку, либо совершить госпереворот и остаться пожизненным президентом»

*Российские эксперты практически единодушны в комментариях по поводу возможных действий России в случае нового обострения газового кризиса в отношениях с Беларусью.*

***Сергей Караганов,*** *председатель президиума Совета по внешней и оборонной политике:*

— У России есть огромное количество политических методов, о которых всем прекрасно известно, но пока речь идет о первом шаге — переходе на рациональную экономическую политику между двумя странами. И мы не должны давать какие-то кредитные поблажки в этом отношении.

Главная проблема — не политический режим в Беларуси, а то, что этот режим невозможно поменять, не меняя его экономическую основу. Никакие сближения с Россией при таком положении вещей в принципе невозможны. Скорее всего Лукашенко пойдет навстречу Москве, а если не пойдет, то он прекрасно понимает, что дни его сочтены.

***Глеб Павловский,*** *руководитель Фонда эффективной политики:*

— Россия должна занимать крайне сдержанную позицию и не давать втянуть себя в какую-то новую игру. Да и зачем нам подыгрывать Лукашенко?

Проблема как раз в том, что он избавляет себя от решения проблем собственной экономики и политических проблем — Россия, оплачивая счета, позволяла ему затягивать этот процесс. С самого начала было ясно, что финал будет именно такой, что Лукашенко заявит о недружественной политике со стороны РФ и попытается угрожать. Это достаточно мелкая игра, а ситуация серьезная. Сейчас возможности затягивать процесс и дальше у Лукашенко нет. Я бы не исключал никаких маневров с его стороны, в том числе каких-то прозападных. Но это будет продолжением той же самоубийственной политики: никаких внутренних проблем это не решит, он загоняет себя и Беларусь в тупик.




***Вячеслав Игрунов,*** *директор Международного института гуманитарно-политических исследований:*

— Я думаю, что этот кризис является ключевым. Сейчас станет ясно, какие у нас сложатся отношения с Беларусью. Или мы дальше двигаемся по пути сближения, и тогда больше таких вопросов не возникнет, или мы окончательно расходимся. Выходить какими-либо политическими методами из создавшейся ситуации России не нужно. Она использовала сейчас прикрытие газа для того, чтобы подтолкнуть Лукашенко окончательно к решению проблем, связанных с дальнейшей интеграцией. Конечно, это способ давления, потому что в принципе никакой катастрофы для "Газпрома" задолженность Беларуси не имела. Если Лукашенко не договорится с Россией, ему либо придется уйти в отставку, либо совершить госпереворот и остаться пожизненным президентом.

***Андрей Пионтковский,*** *директор Центра стратегических исследований:*

— Говоря о том, что Россия не должна становиться дойной коровой, думаю, президент Путин прежде всего имел в виду свой опыт отношений с г-ном Лукашенко. Белорусский лидер изобрел уникальный бартер, которым пользовался в течение 10 лет. Каждый раз, подписывая в Москве какую-нибудь бумажонку о новом объединении, он получал взамен громадные экономические преференции... Мнимое объединение продолжалось до прихода Путина.

**Опрос подготовила Елена БАЙКОВА.**
*("Независимая газета".)*

## І ў другім квартале — будзем разам!

У трэці раз нагадваем: ідзе падпіска на II квартал 2004 года. Каб не застацца без "Народнай волі", многім чытачам трэба працягнуць падпіску.

**Не спазніцеся!**

